# На службе ідэі

(Заканчэньне)

хаду. Беларуская нацыянальная справа выйшла сяньня на міжнародную арэну, яна сталася міжнародным пытаньнем, ей цікавяцца, яе вывучаюць, ей сымпатызуюць. Гэта найвялікшае нашае дасягненьне ў кароткі паваенны пэрыяд, у чым бадай што выключная заслуга Абрамчыка.

Вялізарную акцыю правёў Абрамчык у кірунку арганізаваньня й кансалідаваньня нашага эміграцыйнага грамадзянства пасьля спыненьня варожых дзеяньняў апошняе вайны. За час вайны, як ведама, кантакты із старой эміграцыяй былі парваныя, а з новай, што знаходзілася галоўным чынам у Нямеччыне й акупаваных немцамі краінах, із зразумелых прычынаў не маглі быць наагул навязаныя. Трэба было пачынаць усё спачатку. Гэта была ў той мамэнт нявымоўна цяжкая праца галоўна з увагі на тое, што нашае грамадзянства, стэрарызаванае прымусовай рэпатрыяцыяй і здэзарыентаванае, расплывалася сярод чужых нацыянальнасьцяў, сытуацыя якіх была выклярованая, галоўна палякаў, не даючы аб сабе ніякага знаку.

У гэтым кірунку прарабіла важную работу выдаваная й рэдагаваная Абрамчыкам у Парыжы газэта «Беларускія Навіны», нумар першы каторай паявіўся ўжо восеньню 1945 году. Ня глядзячы на тое, што яна выходзіла нерэгулярна, але згуляла вялікую ролю ў справе ўстанаўленьня кантактаў сярод расьцярушанай эміграцыі й палажыла першыя й трывалыя асновы пад кансалідацыю. Апрача гэтага Абрамчык наведвае асабіста ўсе буйнейшыя асяродзьдзі нашае эміграцыі ў Заходняй Эўропе, памагае ліквідаваць розныя труднасьці, што былі вынікам яшчэ неўстабілізаванага паваеннага жыцьця, памагае ей арганізавацца й дае ініцыятыву грмадзкай і нацыянальнай дзейнасьці. Тут мусім адцеміць, што нашая эміграцыя із свайго боку дала яму поўнае падтрыманьне, а ўсё палітычна сьведамае грамадзянства сканцэнтравалася вакол БНР, так што ў два гады арганызацыйная праца ў васнаўным была ўжо закончаная.

Навязанай такім спосабам сувязі з эміграцыяй Абрамчык ня толькі не парывае, але ўвесь час яе зацясьняе. Ён толькі ў выключных выпадках зьяўляецца габінэтным працаўнікам, што павінна было-б вынікаць зь ягонага становішча. Наадварот, мы бачым Абрамчыка заўсёды з масамі, у сталым і блізкім кантакце зь імі. За апошніх восем год свае дзейнасьці ён амаль пяць год знаходзіўся ў дарозе, з чаго на адну Амэрыку прыпаў чуць не адзін год. І то знаходзіўся не на адным месцы ў Нью Ёрку ці ў Вашынгтоне, але даслоўна й то па некалькі разоў усюды там, дзе толькі знаходзіцца большая ці меншая група беларусаў. За выключэньнем толькі Аргентыны й Аўстраліі, ён за гэты час наведаў усе беларускія пункты ў Заходняй Эўропе й на паўночнаамэрыканскім кантынэнце.

Усе гэтыя падарожжы Абрамчыка зусім ня былі падобнымі да афіцыяльных візытаў, але насілі характар непасрэднае сутычнасьці й супрацоўніцтва з тымі эміграцыйнымі групамі, сярод якіх у дадзены мамэнт ён знаходзіўся. Таму кажнае такое наведаньне пакідала за сабой незацёрты сьлед, пасьля чаго людзі ўзмоцніваліся на духу, адкідалі ўсякія сумлівы, што іх мучылі дагэтуль, і зь сьвежым энтузыязмам узноў упрагаліся ў нацыянальную працу, з такім энтузыязмам, зь якім прыяжджаў і пакідаў іх Абрамчык. І таму ня будзе ніякага пераўвялічэньня, калі скажам, што Абрамчыку ў вялікай меры заўдзячвае беларуская эміграцыя цяперашні стан свайго эміграцыйнага жыцьця й сяньняшную ўзроўню сваей дзейнасьці. Мы далёкія ад прынцыпаў «фюрэрызму», як і далёкім ад гэтага зьяўляецца сам Абрамчык. Аднак з цэлым націскам хочам гэта адцеміць, што калі-б не Абрамчык, дык нашая нацыянальная справа на эміграцыі, асабліва ў галіне вонкавае дзейнасьці, выглядала-б шмат разоў слабей і мізарней, чымсьці яна прадстаўляецца сяньня. І мы ўпэўненыя, што кажны сумленны беларус, калі старанна праанялізуе ўвесь працэс нашай нацыянальнай дзяйнасьці ў вапошні паваенны пэрыяд, поўнасьцю з намі ў гэтым згодзіцца.

Далёка няпоўным і павярхоўным быў-бы абраз чалавека, якім ёсьць Абрамчык, калі-б мы абмежыліся толькі да паказаньня ў гэтых кароткіх словах галоўных этапаў ягонае нацыянальнае й палітычнае дзейнасьці й рэгістраваньня ейных вынікаў. У меру нашых магчымасьцяў мы павінны хоць часткава й хоць мо' недакладна насьветліць тыя некаторыя рысы ягонага характару, якія дазваляюць яму брацца за цяжкія, для многіх за безнадзейныя навет, справы й пасьпахова даводзіць іх да канца.

Мікола Абрамчык — гэта бяспрыкладны энтузыясты беларускай нацыянальнай ідэі. Энтузыязм гэты не зьяўлясцца вонкавым і кароткатрывалым запалам, ня ёсьць звычайным настроем, выкліканым часовымі посьпехамі, але зьяўляецца трывалым і сталым. Ён базуецца на моцнай і нязломнай веры Абрамчыка ў канчальную перамогу беларускай нацыянальнай ідэі. У гэтай веры ён зьяўляецца непахісным. Ён ані чуць ня сумляваецца, што мамэнт вызваленьня беларускага народу ўжо недалёкі і што ў гэты мамэнт наш народ адваюе сваё вольнае й незалежнае жыцьцё. У гэтай веры ўмацоўваюць яго два фактары. Першым зь іх ёсьць непахіснае перакананьне аб вялікіх жыцьцёвых сілах беларускага народу, ягоных канструктыўных здольнасьцях і вялікіх творчых магчымасьцях. Паходзячы сам з народных масаў, а таксама на працягу сваей дзейнасьці на бацькаўшчыне ён вельмі добра пазнаў гэтыя асаблівасьці беларускага народу. Другім зь іх ёсьць ня менш моцнае перакананьне, што незалежнасьць і вызваленьне беларускага народу выплывае з самой лёгікі гістарычнага разьвіцьця, што ў працэсе гэтага разьвіцьця ў наступным ягоным этапе справа незалежнасьці Беларусі станецца зьявішчам канечным і няўхільным.

Вось тут, на нашую думку, і хаваецца той дзіўны для некаторых сакрэт, што Абрамчык мае вялікую сілу ўзьдзейваньня, што кажны, хто зь ім стыкнецца, хутка запальваецца такім-жа, як і ён, энтузыязмам, набірае веры ў будучыню.

Да інакш думаючых і сваіх палітычных праціўнікаў звычайна адносіцца Абрамчык зь вялікай талерантцыйнасьцю й тактам. Не дарма тады сярод беларускага грамадзянства пашыраны пагляд, што сумленны й чэсны палітычны праціўнік можа не згаджацца з Абрамчыкам, але ненавідзіць яго ня будзе.

Абрамчык — гэта чалавек ідэі. Не асабістая карысьць, — якой, да рэчы, ніколі ня меў, — не пагоня за славай, — бо больш скромнага чалавека, якім ёсьць Абрамчык, цяжка знайсьці, — але выключна вялікая агульнанародная ідэя кіруе ягонай дзейнасьцю. Ад самага пачатку сваей дзейнасьці аж да сяньняшніх дзён у кажным сваім чыне й пачынаньні ён быў на службе гэтае ідэі, аддаваўся ей поўнасьцю й да канца, ён жыў і ў імя яе дзеіў. Вось за гэта сяньняшняе беларускае грамадзянства гэтак высока цэніць Абрамчыка й вызнае ў ім свайго ідэйнага правадыра. За гэта ацэніць яго і гісторыя!

**Язэп Каранеўскі**

# Рэспубліканцы ў наступе

Калі рэспубліканскі кандыдат на прэзыдэнта ЗША Двайт Айзэнгаўэр сказаў 4 чэрвеня ў сваім родным гарадку ў штаце Кэнзас сваю першую перадвыбарную прамову, дык уся амэрыканская прэса адцеміла, што прамова гэтая была залішне ўмяркаванай, навет нявыразнай, з прычыны чаго ягоныя сымпатыкі выказвалі няскрыванае незадаваленьне.

Гэтага аднак нельга сказаць аб цяперашніх палітычных выступленьнях Айзэнгаўэра. Сяньня Айзэнгаўэр, а разам зь ім і ўсе рэспубліканцы, занялі вельмі выразную, станоўчую й афэнзыўную пазыцыю як у дачыненьні да нутранай палітыкі ЗША, гэтак і да вонкавай. Ня маючы намеру спыняцца тут над праграмай нутранае палітыкі Айзэнгаўэра, зацемім толькі, што ў сваей нядаўнай прамове ў штаце Джорджыя ён перад 40 000 слухачоў першы раз нязвычайна моцна заатакаваў цяперашні ўрад і заявіў, што «скандалічная сытуацыя ў урадзе Трумана можа быць зьліквідаваная ня толькі ‚адсьвежаньнем', але вымагае й правядзеньня вялікай чысткі для ліквідацыі карупцыі».

Праграму вонкавае палітыкі найбольш выразна спрэцызаваў Айзэнгаўэр у сваей прамове на зьезьдзе амэрыканскага легіёну (амэрыканскіх камбатантаў абедзьвюх войнаў) у Нью Ёрку 25 жнівеня 1952 году, у якой падаў тры галоўныя тэзы, што становяць ад гэнага часу тры найважнейшыя пункты замежнай палітыкі рэспубліканцаў, пайменна: **1. найвышэйшая ваенная й гаспадарская гатоўнасьць Амэрыкі, 2. задзіночаньне вольнага сьвету супраць савецкай небясьпекі, 3. заява аб вызваленьні паняволеных Савецкім Саюзам народаў.**

Гэты пункт апошні выклікаў ня толькі засьцярогу, але й цэлую хвалю абурэньня й непакою, і то ня толькі сярод дэмакратычных колаў Амэрыкі, але й у Заходняй Эўропе. Канкрэтна Айзэнгаўэр асьведчыў, што Амэрыка павінна ясна й нядвузначна заявіць, што яна ніколі ня вызнае й ня згодзіцца на апанаваньне Саветамі сілай Усходняй Эўропы й Азыі. У далейшым, ён дамагаецца, што Амэрыка павінна імкнуцца да вызваленьня гэтых народаў, але — дадаў у пазьнейшых выступленьнях — мірнай дарогай, ня прыбягаючы да вайны.

Гэтыя дамаганьні Айзэнгаўэра дапоўніў выдатны амэрыканскі палітык Далес, які, у выпадку перамогі рэспубліканцаў на выбарах, праўдападобна займе становішча міністра замежных справаў ЗША. Далес гвалтоўна заатакаваў урад Трумана, што ягоная палітыка паўстрымоўваньня («кантэйнмэнту») бальшавізму абазначае ахвяраваньне мільёнаў людзей за зялезнай заслонай, цьвердзячы, што такая палітыка вядзе няўхільна да трэйцай сусьветнай вайны, якой можна пазбавіцца толькі разьбіцьцём Савецкага Саюзу з нутра. Ён далей паясьніў, што адзіным спосабам унікнуць вайны з Саветамі ёсьць адарваньне сатэлітных краінаў ад Масквы. Задзіночаныя Штаты павінны ўзыйсьці на гэты шлях, — заявіў ён — або чакаць новай вайны.

Як і трэба было спадзявацца, такае становішча рэспубліканцаў спаткалася зь вялікай контратакай з боку дэмакратаў. Гэтаму прысьвяцілі свае прамовы дэмакратычны кандыдат на прэзыдэнта Стывэнсон, дырэктар узаемнае бясьпечнасьці Гарыман і напасьледак прэзыдэнт Труман, які закваліфікаваў Айзэнгаўэра, як ваеннага падпальшчыка. Ён абвінаваціў Айзэнгаўэра ў дэмагогіі, што, кідаючы такія лёзунгі, хоча толькі здабыць сабе галасы на выбарах, і ў павялічэньні рызыкі вайны. Дэмакраты закідаюць рэспубліканцам, што яны, абнадзейваючы народы за зялезнай заслонай у іхным вызваленьні, могуць іх папхнуць на неразважную дарогу перадчасных паўстаньняў, што выкліча толькі непатрэбны разьліў крыві. як было гэта падчас варшаўскага паўстаньня.

Большае незадаваленьне й непакой, чымсьці ў Амэрыцы, выклікала прамова Айзэнгаўэра ў Заходняй Эўропе — у Вялікабрытаніі й Францыі. Калі да часу спрэцызаваньня антысавецкай палітыкі быў Айзэнгаўэр найбольш папулярнай асобай у гэтых краёх, якога яны хацелі-б бачыць на становішчы прэзыдэнта ЗША, цяпер гэтыя сымпатыі разьвеяліся й на месцы іх запанаваў перапалох, што палітыка Айзэнгаўэра, у выпадку, калі будзе ён прэзыдэнтам, узапраўды можа давесьці да вайны з Саветамі. Таму бадай што ўся заходняэўропейская прэса, на чале з парыскім «Ле Монд» і ангельскім «Таймс», «Манчэстэр Гардыян» і інш., выступіла супраць палітычнае канцэпцыі Айзэнгаўэра. Гэтая апошняя газэта іранічна напісала, што прыяцелям Айзэнгаўэра трэба будзе трохі часу, каб «прывыкнуць да ягонай новай ролі, як ‚сьвятога Айка' крыжоўца супраць камуністычнага смока і вызвольніка падбітых народаў».

Сяньня ўжо ясна, што ўсё перадвыбарнае змаганьне ў ЗША будзе весьціся галоўна пад знакам двух супрацьлеглых лёзунгаў сусьветнае палітыкі: **паўстрымоўваньне камунізму, пакідаючы яму дасюлешнія ягоныя здабыткі, і вызваленьне паняволеных ім народаў.**

Ня глядзячы на тое, што асьведчаньні рэспубліканцаў зьяўляюцца яшчэ перадвыбарнымі лёзунгамі й маюць на мэце здабыць як найболей галасоў, што ім дэмакраты й закідаюць, — факт аднак астаецца фактам, што яшчэ ў Амэрыцы ў дачыненьні да Савецкага Саю-

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Прывітаньні для Прэзыдэнта БНР

(Працяг)

**СП. ПРЭЗЫДЭНТУ БНР**
**інж. МІКАЛАЮ АБРАМЧЫКУ**

**Высока-Паважаны Сябра!**

**Урад Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, які задзіночвае сяньня на чужыне працаўнікоў беларускае культуры й навукі, намагаючыся праводзіць ды ўзгадняць так неабходную тут на эміграцыі працу аб Беларусі, ейнай гісторыі і ейным нацыянальна-вызвольным змаганьні, — шчыра вітае Вас, свайго запраўднага пачынальніка й аднаго зь першых сяброў з нагоды 50-тых угодкаў Вашага працавітага, самаахвярнага жыцьця.**

**Наш Інстытут цешыцца й будзе цешыцца з кажнае Вашае ўдачы і з кажнага ўкладу ў нашую беларускую навуку, жадаючы Вам мець іх якнайбольш.**

**Жыве Беларусь!**

**Урад Беларускага Інстытуту**
**Навукі і Мастацтва**
**Нью-Ёрк, жнівень 1952.**

**ЯГОНАЙ ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ**
**ПРЭЗЫДЭНТУ БНР**
**Інж. МІКОЛЕ АБРАМЧЫКУ.**

**Высока-Паважаны**
**й Дарагі Сп. Прэзыдэнце!**

**Рэдакцыя газэты «Беларус» із запраўднай радасьцяй вітае Вас з нагоды пяцідзесятага дню Вашых нарадзінаў. У нашыя дні, калі змаганьне за праўду й асягненьне таго, чым жыве сяньня ўся нашая патрыятычная эміграцыя, гэткае цяжкое, — тое, што мы маем Вас, які змагаецца за нас і наш народ на палітычнай арэне заходняга сьвету, супакойвае й пацяшае нас. Дык жывеце, Дарагі Спадару Прэзыдэнце й змагайцеся аж да перамогі! Мы із Вамі.**

**За Рэдакцыю Газэты «Беларус»**
**Н. Арсеньнева**
**Нью-Ёрк, жнівень 1952.**

**Яго Міласьці**
**Спадару Прэзыдэнту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**Інжынеру МІКОЛЕ АБРАМЧЫКУ.**

**Высока Паважаны Спадар Прэзыдэнт!**

**З нагоды 50-ых угодкаў із дня Вашага нараджэньня Ўрад Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў ЗША перасылае Вам шчырае прывітаньне.**

**Даўгі ўжо шлях прайшлі Вы ў вахвярнай і адданай службе для Беларускага Народу. Дзякуючы нясупыннай Вашай працы і вялікай умеласьці вяськаўшчыны хутка пашыраюцца ў дэмакратычным сьвеце, а пазыцыі ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі усьцяж мацнеюць.**

**Выражаючы шчырую падзяку за Вашую працу для дабра Беларускага Народу, хочам пажадаць Вам, Высока Паважаны Спадар Прэзыдэнт, у 50-тыя угодкі Вашага нараджэньня як найлепшага здароўя, вытрываласьці і посьпехаў у выконваньні вялікіх абавязкаў Высокага Вашага Становішча.**

**З сваей стараны запэўняем Вас, што беларуская моладзь, зарганізаваная ў ЗБМ, будзе вытрывала працаваць, каб дапамагчы ўсяму нашаму сьведамаму грамадзтву зьдзейсьніць Вялікі Акт 25 Сакавіка.**

**Прыймеце словы глыбокай і шчырай да Вас пашаны.**

**Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!**

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ**
**МОЛАДЗІ Ў ЗША.**
**Міхась Тулейка, Старшыня**
**Васіль Русак, Сакратар.**
**Нью-Ёрк, 6 жніўня 1952 г.**

**Я Э.**
**СП-РУ ПРЭЗЫДЭНТУ РАДЫ**
**БЕЛАРУСКАЕ**
**НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**
**Інж. МІКОЛУ АБРАМЧЫКУ**

**Ваша Эксцэленцыя!**

**З нагоды спаўненьня 50 гадоў Вашага жыцьця Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе перасылае Вам свае найшчырэйшыя пажаданьні посьпехаў, здароўя й сілы ў далейшай Вашай няўтомнай працы на карысьць нашае бацькаўшчыны а таксама ў прыватным жыцьці.**

**Жыве Беларусь!**

**З пашанаю**
**Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе**
**М. Ганько, Старшыня.**
**Торонто, 1. 8. 1952.**

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ**
**СП-РУ ПРЭЗЫДЭНТУ РАДЫ**
**БЕЛАРУСКАЕ**
**НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**
**Інж. МІКОЛУ АБРАМЧЫКУ**

**Ваша Эксцэленцыя!**

**У дзень, калі спаўняецца Вам 50 гадоў жыцьця, дазвольце выразіць Вам нашыя найлепшыя пажаданьні здароўя, посьпехаў, сілы й вытрываласьці ў Вашай будучай працы для дабра нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны Беларусі. Няхай Бог прыспорыць Вам на будучыню яшчэ больш веры й вытрываласьці ў змаганьні, якое праводзіце для вызваленьня беларускага народу.**

**Жыве Беларусь!**

**З пашанаю,**
**Беларускі Выд. Фонд у Канадзе**
**М. Рачыцкі, Старшыня**
**«Беларускі Эмігрант»**
**К. Акула, Рэдактар**
**Торонто, 2. 8. 1952 г.**

**ПРЭЗЫДЭНТУ БЕЛАРУСКАЙ**
**НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**
**Сп. Інж. М. АБРАМЧЫКУ**

**Мы, сябры Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі (Аўстралія), перасылаем Вам, з нагоды 50-ых угодкаў Вашага нараджэньня, найшчырэйшыя нашыя пажаданьні.**

**Знаходзячыся ў далёкай Аўстраліі, мы з увагай сочым за Вашай нязвычайна важнай, Спадару Прэзыдэнце, працай для аднаўленьня незалежнасьці Беларусі й дакляруем Вам у гэтай працы нашае поўнае падтрыманьне.**

**Жыве БНР!**

**Урад Згуртаваньня Беларусаў**
**у Вікторыі (Аўстралія)**
**М. Нікан**
**Старшыня Ўраду.**
**У. Аксючык**
**Сакратар.**
**Мэльбурн, 6. 8. 1952.**

**ВЫСОКАПАВАЖАНАМУ**
**СПАДАРУ ПРЭЗЫДЭНТУ БНР**
**інж. М. Абрамчыку.**

**Складаем найшчырэйшыя пажаданьні сп. Прэзыдэнту Рады БНР інж. Міколе Абрамчыку ў дзень Ягоных нарадзінаў і 50-ай гадавіны жыцьця, каб праца й высілкі, уложаныя ў грамадзкую справу, прынесьлі ўсім беларусам радасьць і шчасьце, а нам выгнаньнікам хуткі паварот у Беларускую Незалежную Дзяржаву.**

**Няхай жыве Мікола Абрамчык — Прэзыдэнт Рады БНР!**

**За дружыну Задзіночаньня Беларускіх**
**Камбатантаў у Манчэстары**
**М. Яськевіч, Сакратар.**
**Манчэстар, 3. 8. 1952 г.**

**СПАДАРУ ПРЭЗЫДЭНДТУ БНР**
**Інж. М. АБРАМЧЫКУ**

**Вельмі Паважаны Спадар**
**Прэзыдэнт!**

**Ад імя Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Вялікабрытаніі складаем Вам найшчырэйшыя пажаданьні ў дзень пяцідзесяцігодзьдзя Вашага нараджэньня й запэўняем Вас аб нашай гатовасьці змагацца з аружжам у руках за тыя сьвятыя для кажнага беларуса ідэалы за якія непахісна ўвесь час змагаецеся Вы. Будзьце ўпэўненыя, Спадару Прэзыдэнце, што ў выпадку патрэбы мы ўсе, як адзін, станем у рады змагароў за вольнасьць і незалежнасьць нашай дарагой Бацькаўшчыны-Беларусі.**

**Прымеце ад нас жаўнераў, Спадару Прэзыдэньце, нашыя найшчырэйшыя пажаданьні як найдаўжэйшага жыцьця й як найбольшых посьпехаў у Вашай далейшай працы.**

**Жыве Беларусь!**

**Ад імя Галоўнае Ўправы Згуртаваньня**
**Беларускіх Камбатантаў у Вялікай**
**Брытаніі:**
**А. Лашук, Сакратар**
**Лёндан, 4 жнівеня 1952 г.**

**ПРЭЗЫДЭНТУ РАДЫ Б. Н. Р.**
**Сп. Інж. М. АБРАМЧЫКУ**

**Вельмі Паважаны Спадар**
**Прэзыдэнт!**

**Беларускі Нацыянальны Камітэт — Цэнтральнае Прадстаўніцтва Беларускае Эміграцыі ў Нямеччыне вітае Вас зь пяцідзесятай гадавінай Вашага Нараджэньня, жадае Вам як найлепшага здароўя й доўгага жыцьця на славу й карысьць нашага шматпакутнага народу.**

**Беларускі Нацыянальны Камітэт, для пашырэньня дзейнасьці каторага й Вы памаглі асабіста, высока цэніць Вашыя заслугі, дакананыя зь нябывалай стойкасьцю для беларускай нацыянальна-вызвольнай справы, і верыць, што распачатая Вамі няўтомная нацыянальная праца ў недалёкай будучыні ўкарануецца яшчэ большымі посьпехамі.**

**Няхай жыве Прэзыдэнт БНР**
**інж. М. Абрамчык!**
**Няхай жыве Вольная й Незалежная Беларусь!**

**Уладзімер Бортнік,**
**Старшыня Беларускага Нацыянальнага**
**Камітэту ў Нямеччыне.**
**Мюнхен, у жніўні 1952 г.**

**ЯГО МІЛАСЬЦІ**
**ПРЭЗЫДЭНТУ БЕЛАРУСКАЙ**
**НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**
**СПАДАРУ Інж. МІКОЛУ АБРАМЧЫКУ**

**Высока Паважаны**
**й Дарагі Спадару Прэзыдэнце!**

**З нагоды 50-ай гадавіны Вашых нарадзінаў мы беларускія жаўнеры, задзіночаныя ў Згуртаваньні Беларускіх Вэтэранаў у Аўстраліі й Новай-Зэляндыі, зычым Вам, Спадару Прэзыдэнце, шмат гадоў жыцьця, здароўя і посьпеху ў Вашай цяжкой і ахвярнай працы на карысьць нашага шматпакутнага народу.**

**Вашая праца й кіраўніцтва нашым вызвольным змаганьнем глыбока ацэненыя беларускім жаўнерам, і мы пэўныя, што з Божай дапамогай пераможа праўда й нашае слушнае змаганьне.**

**Мы заўсёды гатовыя на Ваш загад узяцца за зброю й працярэбліваць дарогу нашаму народу да шчасьлівых дзён.**

**Дык ад усей душы просім Вас, Спадару Прэзыдэнце, прыняць нашыя шчырыя пажаданьні й нашую Вам адданасьць!**

**За Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў**
**у Аўстраліі й Новай-Зэляндыі**
**Данат Яцкевіч,**
**Старшыня ЗБВ у Аўстраліі**
**й Новай-Зэляндыі,**
**Міхась Раецкі,**
**Старшыня Аддзелу ў В. А.**
**Мікалай Лейка,**
**Сакратар.**
**Аўстралія, 1 жнівеня 1952.**

*

**(Астальныя прывітаньні будуць зьмешчаныя ў наступным нумары)**

СТ. КРУШЫНІЧ

# Зьдзек над Янкам Купалам

Калі ў Савецкім Саюзе людзі паміраюць таямнічай ненатуральнай сьмерцю, але зьяўляюцца нязвычайна папулярнымі й цэненымі ў народзе, дык бальшавікі нярэдка потым выслаўляюць іх, як сваіх вялікіх прыхільнікаў і гэрояў, ня гледзячы на тое, што зьяўляюцца іхнымі непасрэднымі ці пасрэднымі забойцамі. Такая ўжо подлая практыка маскоўскага бальшавізму. Яна патрэбная бальшавіком па тое, каб уціхамірыць і адхіліць народны гнеў, які быў-бы для іх небясьпечным, калі-б народ поўнасьцю пераканаўся, хто быў запраўднаю прычынаю сьмерці запраўдных ягоных гэрояў-правадыроў. З другога боку патрэбнае ім гэта па тое, каб заслугі, паложаныя для народу іхнымі ахвярамі, выкарыстаць для сваіх нізкіх прапагандовых мэтаў, іншымі словамі, каб іх прысабечыць, украсьці.

Такой трагічнай ахвярай подлай бальшавіцкай практыкі стаўся наш Вялікі Янка Купала.

Купала, у гады жудаснага бальшавіцкага тэрору, будучы ў 1931 годзе ў менскай турме, прабуе пакончыць самагубствам, распорваючы сталовай лыжтай сабе жывот. Будучы аднак адратаваным і прыверненым «у ласцы», каб прымусіць ягоны вялікі талент служыць бальшавіцкаму акупанту, Купала, ня могучы пагадзіцца з сваей новай роляй, у 1942 годзе ў другі раз пасягае на сваё жыцьцё — канчае самагубствам. Гэтым Купала найбольш вымоўна запратэставаў супраць духовых і фізычных зьдзекаў над беларускім народам. Гэтым ён паказаў ня толькі ў сваей несьмяротнай творчасьці, але й на дзеле, што ня толькі «жыў і цярпеў за мільёны», але што й памёр за мільёны. Гэтым сваім трагічным актам ён стаўся яшчэ больш дарагім беларускаму народу, бо ён памёр за агульнанародныя ідэалы, якім заўсёды верна служыў і якія ўславіў у сваей чароўнай песьні.

Сёлета была шырака адзначаная дзесятая гадавіна трагічнай сьмерці Купалы, як на бацькаўшчыне, гэтак і беларусамі на эміграцыі. Але як-жаж па рознаму.

На эміграцыі ўсюды там, куды злы лёс закінуў нашых суродзічаў, былі ладжаныя ўрачыстыя абходзіны 70-ай гадавіны нараджэньня й 10-ай гадавіны сьмерці нашага вялікага песьняра, а беларуская прэса прысьвяціла гэтай падзеі адумысловыя выданьні. Тут, на эміграцыі Купала быў паказаны такім, якім ён быў у запраўднасьці, якім ёсьць і будзе заўсёды ў памяці беларускага народу. А ўсе ўрачыстасьці, прысьвечаныя ягонай гадавіне, вызначаліся рэлігійнай павагай, глыбокім патрыятычным уздымам, што найбольш гарманізавала з павагай і ідэйнай глыбінёй творчасьці паэты.

Крыклліва была адзначаная Купалаўская гадавіна на паняволенай бацькаўшчыне, але толькі крыклліва, па казённаму, штучна, без найменшай шчырасьці. Былі ня толькі ў БССР, але й у «брацкіх рэспубліках», у Маскве, Вільні, Кіяве й інш., наладжаныя «ўрачыстыя акадэміі», на якіх болей гаварылася аб Сталіне й ягоных «бацькаўскіх клопатах» аб беларускім народзе, аб камуністычнай партыі, што «натхняла вялікага песьняра й асновапаложніка беларускай савецкай літаратуры на што раз большыя подзьвігі», аб літаратуры «вялікага рускага народу», якая сваім «жыцьцядайным уплывам» падняла Купалу на высокую ідэйную й мастацкую ўзроўню, чымсьці аб самым Купале. Сям-там, навет і ў «летувіскім Вільнюсе» былі названыя імем Купалы некаторыя вуліцы, у прэсе зьявілася рад казённых артыкулаў аб Купале, у якіх найвялікшы духовы правадыр беларускага народу прадстаўлены быў у такім крыўдным і схвальшаваным сьвятле, што ўсе гэтыя ўрачыстасьці прыносілі ня славу, але ганьбу для памяці Вялікага Купалы.

Перад намі пяць «навуковых» артыкулаў аб творчасьці Купалы, ня лічачы цэлага раду дробных зацемак ды водзываў стаханаўцаў і перадавікоў індустрыі і селскай гаспадаркі, якія былі зьмешчаныя ў менскай «Зьвязьдзе» ў сувязі зь ягонай гадавінай.

Дакастрычніцкая творчасьць паэты не паказана ў іх бадай што зусім; аб ей успамінаецца толькі агульнымі штрыхамі, для цэласьці вобразу, бо не выпадае навет і ў савецкіх умовах сказаць, што Купалаўская творчасьць пачалася толькі ад вымушанага казённага верша пра Сталіна. І гэта ў той час, калі ўся мастацкая й ідэйная сіла нашага паэты зазьзяла ў поўным блеску якраз у гэты дакастрычніцкі пэрыяд, калі паўсталі многія ягоныя творы недасягальнае мастацкае вышыні й ідэйнае сілы, калі ён, як ніхто перад ім і пасьля яго, у жывых мастацкіх вобразах уславіў беларускі народ, падняў войстры пратэст супраць ягонага паняволеньня й зьдзеку, стварыў ідэалягічныя асновы нашага нацыянальнага й сацыяльнага вызваленьня й надаў далейшы ідэалягічны кірунак для будучых пакаленьняў. Гэткім быў Купала ў эпоху, калі мог тварыць свабодна й пісаць аб тым, аб чым набалела ягоная чулая душа.

А як-жа прадставіла гэтую пару буйнае творчасьці Купалы савецкая казённая крытыка.

Вось артыкул «Вялікі мастак слова» («Зьвязда», 6. 7. 52), напісаны нейкім В. Івашынам, які аб гэтым пэрыядзе Купалаўскае творчасьці піша: **«Яго дакастрычніцкая творчасьць вырасла й склалася на глебе агульнарасейскага вызваленчага руху XX стагодзьдзя пад моцным уплывам рэвалюцыйнай барацьбы пралетарыяту. Яна была народжаная магутным уздымам рэвалюцыі 1905-1907 г. г. Сам паэта глыбока адчуваў сваю крэўную сувязь з агульнарускай рэвалюцыяй, з вызваленчай барацьбой народаў Расеі супраць царызму й капіталізму».** І гэта ўсё аб шыракаграннай творчасьці паэты, якая вырасла на беларускім народным грунце, чэрпала свае першыя ўзоры зь беларускай народнай творчасьці й служыла ў першую чаргу нацыянальна-вызвольным ідэалам беларускага народу.

А ведамы «акадэмік» В. Барысенка ў вартыкуле «Вялікі народны паэт» («Зьвязда», 28. 6. 52) гэтую пару творчасьці Купалы характарызуе гэтак: **«Паэзыя й драматургія Купалы дакастрычніцкай пары адлюстроўваюць цэлую гістарычную паласу ў разьвіцьці Беларусі — высьпяваньне рэвалюцыйнай актыўнасьці мас, нарастаньне й разгар рэвалюцыі 1905-1907 г. г., пэрыяд сталыпінскай рэакцыі й новы рэвалюцыйны ўздым, што завяршыўся ў 1917 г. перамогай вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі».** І гэта, — паводля Барысенкі — увесь ідэйны зьмест Купалаўскае творчасьці дадзенае пары.

Аднак, ня могучы схаваць праўды, што Купала быў іншы й іншым яго помняць і падсавецкія беларусы, Барысенка піша: **«Але пісьменьніку не заўсёды былі ясныя ў тыя часы канкрэтныя шляхі да вызваленьня, да шчасьця народу. Ён ня ўзьняўся да разуменьня гістарычнай місыі пралетарыяту і задач сацыялістычнай рэвалюцыі, якая толькі адна здольная даць запраўднае й поўнае вызваленьне працоўным масам».** Пасьля рэвалюцыі Купала, — паводля Барысенкі — **«зьяўляецца адным з асновапаложнікаў беларускай савецкай літаратуры».** Але як ён гэтым «асновапаложнікам» стаўся, аўтар паясьняе таксама: **«Яго пераход на пазыцыі сацыялістычнай рэвалюцыі, на пазыцыі савецкага мастацтва адбыўся не адразу і праходзіць не бязь цяжкасьцяў. У часы Кастрычніцкай рэвалюцыі й грамадзянскай вайны, у пераходныя часы аднаўленчага пэрыяду Янка Купала перажыў ідэйныя хістаньні й сумненьні. Але пад узьдзеяньнем савецкай рэчаіснасьці і выхаваўчай работы бальшавіцкай партыі пісьменьнік трывала становіцца на пазыцыі савецкай улады, на пазыцыі савецкай літаратуры».**

Добра навет і такое прызнаньне, бо, ясна, Барысенка ня мог адкрыта сказаць, якое гэта ў запраўднасьці было «ўзьдзейваньне», пад уплывам якога стануў пясьняр «на пазыцыі савецкай літаратуры».

Падсавецкая літаратурная прадукцыя Купалы, як ведама, складаецца зь некалькі дзесяткаў вершаў, нязвычайна ўбогіх з боку мастацкага й трафарэтна шаблённых з гледзішча ідэалягічнага. Не асталося й сьледу ад ранейшых твораў, зьнік узвышаны палёт фантазыі, шчэзла ідэйная магутнасьць і глыбіня думкі, чым вызначаліся творы ранейшае пары. Цяперашнія ягоныя вершыкі аб Сталіне, чырвонай арміі, ды нязграбная сухая паэмка аб калектывізацыі «Над ракой Арэсай» і ім падобныя — гэта шаблённыя бязхварбныя лёзунгі, пустыя вобразы, убогасьць мастацкіх прыёмаў. Тут Купала ўжо ня быў натхнёным мастаком і палкім народным трыбунам, але штучным рыматворам, літаратурным рамесьнікам у сьціслым значэньні гэтага слова. Гэта не натуральны заняпад, але вымушаны поўны ўпадак паэты.

Але ў сьвятле савецкіх крытыкаў гэтая пара Купалаўскае творчасьці зьяўляецца нябывалым дасюль ягоным расьцьветам як у сэнсе ідэйным, гэтак і мастацкім .Вось адзін з многіх прыкладаў такога грубога хвальшаваньня творчасьці Купалы. Успомнены ўжо Івашын аб ім піша: **«Адданасьць ідэям камунізму, авалоданьне самым перадавым творчым мэтадам — мэтадам сацыялістычнага рэалізму дазволілі ўзьняцца на вялізарную паэтычную вышыню. стаць паэтам з сусьветным імем».** Гэтую ха-

(Заканчэньне на 7 балоне)

# Няўгойны боль

Пры самым гасьцінцы стаяла вёска Васількі. Долам, праз мурожныя сенажаці цякла невялікая, але быстрая рака. Наўкруга ад гасьцінца было поле, выраблянае, урадлівае.

Міналі гады. Бацькоў заступалі дзеці. З чым не маглі даць рады дзяды, спраўляліся ўнукі. Ад пакаленьня, якое завяршала сваё жыцьцёвае кола, нашчадкі пераймалі ў спадчыну няўпынную, жыцьцядайную працавітасьць.

— У нас тунікаў ня труць, не раўнуючы, як у тых Кулікох, дзе чалавек ня ведае, куды сябе падзець, — выхваляўся дзед Вінцэсь перад сваім пляменьнікам з суседняе вёскі. — Ты-ж мо' ведаеш Браніслава Даўнара? Цяпер гэтаму Даўнару ня кажны раўня, — і стары папарадку расказаў, як гэта сталася.

На Даўнаровай сенажаці здаўна была нікому непатрэбная сажалка, якая адно пад рукамі замінала. Аднойчы, абкошваючы сажалку, старэйшы сын Стафан ні-то жартам, ні-то напраўду сказаў бацьку:

— А што, каб у гэтай лужыне ды паспрабаваць рыбу гадаваць? Калісьці ў панскіх сажалках было гэтульки рыбы, што хоць голымі рукамі цягай. А нашая горшая ці што? Адно да ладу давесьці.

— І пастанавілі на сваім, — апавядаў дзед. — Праз дзьве восені варочалі гразь, чысьцілі, паглыблялі дно, раўнавалі берагі. Суседзі кепікі строілі, што Даўнары паважылі зямлю навылёт пракапаць. Цюкнула й мне зірнуць. Як угледзеў, дык ажно жахнуўся. Гэтулькі гразі выцягнуць. Да скарбу, сынок, не дапнеш, колькі не капай, — сказаў я тады Даўнароваму Стафану. А ён мне: — Мы, дзядок, хочам пяшкурыкаў сваіх мець, таму й капаем, каб ім прастарней было. Небарака, — падумаў я. О, рыбка, яна коўзкая, шусьць і няма.

— І хто думаў, што ў сажалцы можа гэта стацца. Аж вунь яно як выйшла. Жартачкі, гэтулькі рыбы выцягнуць. Карабоў мо' з дваццаць напакавалі заўчора. Веры ня даў-бы, каб сам ня бачыў. Карпы адно палыскуюцца на сонцы ды паветра хапаюць. А ліны, нібы парасяты тыя, кораб аж ходырам ходзіць. На ўвесь поплаў рыбы пах стаяў. Азалоцяцца людзі. Чаго ім цяпер не стае? Маюць добрае поле, мёд, рыбу сваю. Жыві хоць тысячу гадоў і паміраць ня трэба. О, гэты Даўнар, ён ніколі ня стоміцца.

А тымчасам жыцьцё не заўсёды было ўцешным. Даўнароў бацька, як казалі, прыйшоў з-за сьвету ды прыстаў быў у прымы да адзінае дачкі беднае ўдавы. На пятым годзе сужэнства памерла жонка, пакінуўшы трохгадовага Броніка. Хлопчык рос бяз матчынай апекі, а бацька ня меў часу песьціць малога. Калі Броніку пайшоў чатырнаццаты год, бацьку забіла хвоя ў лесе. Цяпер ён мусіў неяк сам з старою бабкаю ўпраўляцца на двухдзесяціннай гаспадарцы. Гэтак мінула маленства й юнацтва.

Ішлі гады. Бронік стаў Браніславам. Нявыразнае яшчэ дзяцінае жаданьне цяпер у ягонай сьведамасьці адкрышталізавалася ў пэўную мэту, якая паглынала ўсе думкі. Ён кідаўся ўва ўсе бакі: езьдзіў у лес на заработкі, ганяў плыты, рабіў на тартаку, навучыўся за каваля. Ня згуляў вольнай часіны, капейкі ня пусьціў на вецер. Зьбіраў, ашчаджаў і ўсё дзеля таго, каб, як ён казаў, не валачыцца па людзях ды не пазіраць у чужы рот.

— Гэты дапне свайго, — казалі ў Васількох.

На дваццацьшостым годзе жыцьця Браніслаў жаніўся, а праз год купіў чатыры дзесяціны запушчанай, зарослай хмызьняком зямлі. Мінула колькі гадоў і не пазнаць было ранейшага аблогу. Падрасьлі дзеці, спарней пайшла праца. Даўнар забудаваўся на прастарнейшай сядзібе на ўскраі вёскі. Апошнім часам ён быў заняты пчалмі, у полі працавалі два сыны. Ужо год, малодшы сын Міхась адбываў войска. Было ўцешна, што хоць пад старасьць чалавек дапяў свайго. Гаспадарка была невялікая, але ўсё ў парадку, на сваім месцы, дагледжана, дапільнавана.

Аднойчы сусед, аглядаючы новыя рамовыя вульлі, нібы жартам запытаўся:

— Ці ні на выставу якую наважыў ты пераваллачы сваё поле разам з аваднямі? Гэта-ж канюшына аж гудзе пчаламі. І, памаўчаўшы, дадаў:

— Жывеш ты, чалавеча, з подбегам і няма табе ні дня ні ночы.

— Каму што, а мне авадні, — адказаў Браніслаў зь ціхай радасьцяй за сваю гаспадарку.

Але настаў час, што і ў гэтага няўпыннага чалавека не падымаліся больш рукі да працы.

Здарылася гэтак неўспадзеўкі, што людзі й азірнуцца ня ўправіліся. Парушылася плынь спрадвечнага жыцьця вёскі. Узгадаванае пакаленьнямі, уважанае за аснову й найвышэйшы закон сялянскага жыцьця мела быць вырвана з карэньнем і выкінута, як благая непатрэбшчына, а на ягонае месца нязнаныя людзі прывезьлі нешта такое, што й да цяму ніяк ня йшло. У прыдачу да гэнага яны прынесьлі нечалавечую зласьлівасьць, якая шыбанула праз усе краі, растаптала спагаду, давер, шчырасьць, сяброўства, асабістыя думкі, спакой, упэўненасьць і ў сваёй бяздоннай ненажэрнасьці патрушчыла й праглынула нязьлічоныя чалавечыя жыцьці.

Гэтым разам загаманілі ўсе. Навет заўсёды маўклівыя знайшліся на словы, нібы якраз цяпер наважылі выгаварыцца за ўсё сваё жыцьцё.

Амаль што вечар склікалі сходы. Здавалася, ім і канца ня будзе. У вясковай школе да поўначы людзі спрачаліся, крычалі, непагаджаліся, сварыліся, парыліся ў душным, прадымленым паветры й разыходзіліся па хатах. Нарэшце стаміліся ад сходаў, убачылі, што ні крыкам ні спрэчкамі не абараніцца ад насланьня, і тады гоман заступіла глухая маўклівасьць.

— Языкі вам паадбірала ці што? Я за ўсіх маю гаварыць? У нас парадак такі, што кажны мусіць сказаць за сябе. Таварыш упаўнаважаны хоча пачуць вашае слова. Дык хто надумаў? — настырліва цягнуў за язык старшыня сельсавету. Ён ня ўнімаўся і, відаць, наважыў дапячы адным махам усім, калі пырснуў:

— Мы ведаем, чаму вам заняло. Кулацкіх нашэптаў слухаеце.

На сходзе запала даўкая цішыня. Яе парушыў Даўнар. Пагрозьлівы старшынёў тон гэтак цяў яго за жывое, што ён не сьцярпеў. Устаў і пачаў паволі, нібы ўзважваў кажнае слова:

— Ты нас, чалавек, ня пужай, бо мы ня з панскага кодла выпаўзьлі, на гатовае ня селі ды з чужога не карысталі. Калгасу я не баюся, але дай адумацца. Бачыў гэтыя рукі? Яны патрэскаліся ад працы, гадамі зямлю варочалі. Але-ж яна была маёй. На ёй расла мая збажына, на ёй пасьвілася мая карова, запрацаванае спажывала мая сям'я. Дык а як-жа яно будзе цяпер? Хто будзе працаваць, а хто дзяліць? Вось дзе загваздка. Адумацца, кажу, дай, а пасьля ўпікай кулакамі.

— Ну й дурныя, — перабіў Юстын Капэльчык, заўсёды ахвочы да жартаў.

— Упіраюцца, нібы той вол, якога цягнуць на зарэз. А чаму-б не набрацца адвагі ды на пробу з тыдзень не пажыць у гэтым калгасе? Га? Скажам, цяпер вёска завецца Васількі, а тады будзе калгас чырвоныя Васількі, а мы чырвоныя васількоўцы. Ну, ці-ж ня хораша? — і сеў, падмірнуўшы суседу на лаўцы.

— Яшчэ не ў калгасе, а ўжо чырванее ў ваччу, — данеслася з кутняга раду.

— Хопіць балабоніць! Наслухаліся! Хадзем, каму абрыдла, — крыкнуў голас.

У гэты час нехта шпурнуў сукаватым аскабалкам у лямпу. Шкло дзынкнула й адразу згасла сьвятло. Старшыня сельсавету гэтым разам не памыкаўся запыняць сялянаў. Ён выскачыў праз другія дзьверы й вопрамецьь кінуўся ўцякаць, а сьледам за ім упаўнаважаны. Было па сходзе.

Ужо каторы раз людзі пакідалі сход і кажны йшоў да хаты з сваёй трывогай. Насталі даўгія, бяссонныя ночы.

Неўзабаве сталася так, што спрадвеку дбайныя васількоўцы пачалі жыць, як хтосьці сказаў, — што ўхапіў — тое тваё. Пад нож ішла жывёла, якую трымалі на племя, выпаражнялі засекі з насенным збожжам. Нікому і ў галаву ня йшло, каб залатаць дзюрку ў страсе ці прыбіць завесы да весьніцаў. Што звалілася ці сарвалася, гэтак і ляжала ці зьвісала бяз людзкой увагі. Раней часу не хапала з-за працы, цяпер было яго ўвадкот. Тое, што зьбіралася гадамі, зьнікала нібы сьнег на гарачым сонцы. На вачох пачалі заняпадаць, раськідацца, галець Васількі.

Тыдзень мінуў бяз сходаў. Наступнай сыботы людзі бачылі, як у сельсавеце да позняй ночы гарэў агонь. Ніхто ня ведаў, што там укладалі сьпіс кулакоў і падрыўнікаў, як звалі тады найбольш непадатлівых сялянаў. А праз два дні па гэтым сыботнім вечары, таксама ў вечаровую сутонь агарнуў Васількі розрух і найвялікшае няшчасьце.

Маразяная студзенская ноч. Паволі клыпаюць коні праз сяло. Сані скрыгочуць па зямлі, прыцярушанай сьнегам. У месяцавым водсьвіце мітусяцца, блытаюцца цені людзей. Нехта перабягае вуліцу. Іншыя крочаць павольнай хадой, нехаця, нібы сілком адрываючы ногі ад зямлі. Сьпераду й ззаду конныя міліцыянэры.

На санях людзі рознага веку. Вунь маладзіца аберуч прыгарнула да грудзей немаўля, насьпех загорнутае ў нешта пярэстае. Калі на сані падае пасма месяцавага сьвятла, тады можна заўважыць утароплены кудысьці ў ночную далячынь ейны распачлівы нярухомы позірк. Два дні, як няма ейнага чалавека. Яго былі выклікалі ў сельсавет і адтуль ён больш не вярнуўся.

Побач з жанчынай сядзіць дзед. Ужо каторую пару ён намагаецца завязаць шалік на шыі, але ніяк ня можа лучыць. З згорбленых плячэй зьвісае старая, як і ейны гаспадар, апранаха.

Пры пярэдніх санях ідзе мужчына ў палатаным кажуху. Адно добра прыгледзяўшыся можна было пазнаць у ім Браніслава Даўнара.

Вось і канцавая хата. На ўзгорку, з правага боку вуліцы здаўна стаіць крыж. Бывала, пад гэтым крыжам у гадавыя сьвяты запыняўся хрэсны ход, людзі маліліся за душы зьмерлых, за здароўе жывых. Сяньня крыж гэткі-ж адзінотны, як і вёска.

Даўнар перахапіў лейцы ў суседавага хлапца, запыніў каня й цьвёрдай хадою падыйшоў да крыжа. Упаў на калені, перахрысьціўся ды прамовіў, узьняўшы руку ўгару:

— Божа, за якія правіны? Заступіся, Усемагутны!

Здавалася, гэтага толькі й трэ' было. Напятая ночная цішыня прарвалася немым лямантам. Галасілі жанкі, прыказваючы, плакалі дзеці ў споллаху. На лямант зьбягаліся людзі. Праз колькі часінаў пад крыжам была блізу ўся вёска. Даўнар, абхапіўшы аберуч крыж, тройчы пацалаваў яго, устаў і, ня сьпяшаючыся, вярнуўся да саней. Ён абвёў вачыма натоўп ды пачаў:

— За сваю працу гінем.

Хацеў яшчэ нешта сказаць, але ў гэты час разьляглося колькі залпавых стрэлаў.

Ужо добра разьвіднела, калі прыехалі на чыгуначны паўстанак. Яны былі апошнімі. Вунь у тупіку стаіць даўжэзны таварны цягнік. Абапал ходзяць вартавыя з стрэльбамі напагатове. А там ля кусьціка, мэтраў за пяцьдзесят ад цягніка, відаць кулямёт. Ад вадапомпы нясуць акрываўленага мужчыну й кідаюць у вагон. На тым месцы, дзе ён ляжаў, засталася конаўка з разьлітай вадой.

Высокі, хударлявы, у расхрыстаным шынялі, з нашыўкамі крывавага колеру на каўняры загадаў прыбылым стаць у рад. Ён пералічыў людзей, нешта запісаў ды крыкнуў ладавацца.

Апошнім зайшоў у вагон Даўнар. Як зайшоў, гэтак і запыніўся ў дзьвярах, трымаючы ў левай руцэ торбу з хлебам. Ён пазіраў у той бок, дзе была ягоная родная вёска, у якой ён пакінуў сваё жыцьцё, гаспадарка, якую адабралі, сям'я, якую раськідалі. Учора над вечар забралі ягонага Стафана ды павезьлі некуды разам зь іншымі дзесяцьма маладымі мужчынамі. Два гады таму Даўнар прывёз быў на гэты паўстанак свайго меншага сына Міхася, які адыходзіў у войска. Вось гэтак сама й сын быў запыніўся ў дзьвярах, а калі рушыў цягнік, дык махаў шапкаю на разьвітаньне бацьку, аж пакуль можна было зглядзіць. А цяпер старога бацьку выгналі аднаго ў няведамую дарогу. Ніхто не праводзіць, ніхто й ня сустрэне. Вось зараз заб'юць наглуха вагон, каб нават ніхто ня ўбачыў, што вязуць людзей на загубу. Сэрца сьціснулася ад няўпыннага болю й крыўды. Стары чалавек моўчкі заплакаў.

Апанаваны пачуцьцямі Даўнар не заўважыў і ня чуў, як да вагону падыйшоў хударлявы ў расхрыстаным шынэлі ды загадаў зачыніць дзьверы. На ягоны голас падбег другі ды з размаху выцяў Даўнара крыкладам у грудзі. Правая рука выпусьціла поручань, Даўнар пахіснуўся і ўпаў плячыма на падлогу.

Падняўся сэмафор. Паравоз аддаў апошні гудок. Ніхто ня ведаў, куды адыходзіў цягнік, напакаваны чалавечымі жыцьцямі.

**Нязнаны.**

# Алесь у клопаце

(Заканчэньне)

мальным ходам, камар носа не падточыць! І ўсё гэта разам узятае называецца дыялектыка, Марыся!

Дзяўчына задумалася й нічога не адказала. Яна пачала неяк дзіўна ўглядацца ў ягоны твар іківаць галавой, як бабуся.

— Гляджу я на цябе, Алеська, і думаю — праз часіну прамовіла яна — цяпер ты мне здаешся нейкі не такі, як раней . . .

— Чаму?

— Ну, як-бы табе гэта сказаць?.. Словам, не такі . . . і ўсё . . .

— А які?

— Я-б гэтага не зрабіла . . . Няхай сабе гэта й фікцыя, няхай! Але ты ўжо, выходзіць, нейкі . . . ах, ды ці ня можна было якісь іншы шлях выбраць?!..

— Якая ты дзіўная, Марыся, — з дакорам адазваўся Алесь. — Гэта-ж да мяне ня прыліпла, не? А іншы шлях быў немагчымы. Шукаць іншага шляху — гэта значыць ля мора, ды чакаць пагоды, а пакой адбяруць! Тут трэба было дзеіць хутка, а не разважаць.

Гэтай дыскусыі сяньня хіба ня было-б канца, але якраз надыйшоў пасланец ад дырэктара школы з напамінкам, што ўсе ўжо сабраліся й чакаюць толькі на іхнае прыбыцьцё. Тут ужо Алесь ня выкручваўся — пайшлі.

**Г. Няміга**

# ЕН ЗАГІНУУ АПОШНІМ

### ПАРТЫЗАН НІЧЫПАР ЗЫПЛЯК

У той час гомельская газэта «Палеская Праўда» не шкадавала чорных фарбаў, каб усяляк зганьбіць баявую дзейнасьць гэтае маленькае партызанскае групы, што складалася ўсяго толькі з чатырох самаахвярных змагароў. Амаль з нумару ў нумар на ейных старонках зьмяшчаліся зацемкі пад загалоўкамі — «Зноў кат Зыпляк», «Сьмерць бандыту Зыпляку», «Дзякуў таму, хто заб'е недабітага балахоўца Зыпляка» і г. д. Ці наўрад чытаў гэтую шэрую газэціну Нічыпар Зыпляк, але запраўды ён даўся ў знакі бальшавіком Гомельшчыны. Спачатку групу ўзначальваў былы афіцэр. Потым ён і два іншыя загінулі ў няроўным змаганьні. Тады гэтае змаганьне, што сталася яшчэ больш няроўным, працягваў значны час Нічыпар Зыпляк.

Наведаўшы сярод белага дня адзін вёску Астрагляды, Зыпляк заходзіць у памешканьне тутэйшага аднайменнага сельсавету й забівае ягонага старшыню-камуністага, ад якога стогнам стагналі ваколішнія сяляне. Шмат крыўды ўчыніў сялянам «селькор» — савецкі вясковы карэспандэнт — Стрылічаўскага сельсавету, друкуючы ў мясцовых газэтах данос за даносам, якім адразу наступнічалі арышт і турма. У 1928 г. на Вялікдзень, калі моладзь, а зь ёю й камсамолец-карэспандэнт гулялі на вуліцы, у вёску нечакана ўехаў Зыпляк. Зьвярнуўся да моладзі з традыцыйным павіншаваньнем:

Хрыстос Уваскрос!

— ён адразу-ж, не зьлязаючы з каня, забіў карэспандэнта, сказаўшы яму перад гэтым:

Трымай, сабака!

Чатыры, а мо' пяць раз Зыпляк затрымліваў пошту паміж Брагінам і Хойнікамі. Не забіваючы паштальёнаў, ён спальваў баул зь дзяржаўнай карэспандэнцыяй. Аднойчы ён зьявіўся ў самае мястэчка Хойнікі на пільню й забраў усё зь ейнае касы. З аднолькавым посьпехам ён наведаў аддзел дзяржаўнага банку ў мястэчку Брагін, спакінуўшы цыдульку:

> Мужыцкія грошы на змаганьне з бальшавіцкімі гадамі цалкам атрымаў балаховец Нічыпар Зыпляк.

Нарэшце раённае ДПУ накіравала на змаганьне з партызанам Нічыпарам Зыпляком адмысловы аддзел. Яно-ж усюды абвесьціла аб вялікай грашовай узнагародзе за ягонае забойства. Зыпляк вымушаны быў спакінуць і амаль падпарадкаваны яму аднаму перад гэтым раён і сваю асабістую рэзыдэнцыю — вёску Чахі. Увосені 1928 г. ён пераховўваецца ў непраходных балотах каля вёскі Паганае. Аднак лёс апошняга самотнага партызана быў вырашаны.

Сюды ў балаты Зыпляку прыносіў за грошы ежу адзін вясковы хлапец. Гэты хлапец выдаваў сябе ў вачох партызана за пакрыўджанага савецкай уладай, а ў запраўднасьці зьяўляўся правакатарам. Аднойчы нясучы Зыпляку ежу, хлапец, пабачыўшы яго, нечакана ўдарыў, як у бубен, у бляшаныя талеркі і адразу-ж ніцма паваліўся на зямлю. Зыпляк усё зразумеў і рынуўся ўцякаць. Аднак сыгнал правакатара быў пачуты прыведзеным ім у балаты аддзелам і восем куль затрымалі Зыпляка.

Наколькі Зыпляк быў фізычна моцным, сьветчыць тое, што навет восем куль яго не забілі, а цяжка паранілі. Яго прывезьлі ў Хойнікі й крыху падлячылі ў мястэчковай бальніцы, каб ён меў магчымасьць хаця-б сядзець у часе суду, што прысудзіў яго да сьмерці. Гэты прысуд Зыпляк выслухаў спакойна і аб дараваньні не прасіў. На растрэл яго цягнулі па зямлі, бо пасьля ранаў ён яшчэ не хадзіў. Перш чым яго дабілі, Нічыпар Зыпляк пасьпеў пабожна перахрысьціцца.

Каля будынку Хойніцкага Райвыканкому знаходзіўся сьметнік. Разгробшы сьмецьце і выкапаўшы пад ім яму, бальшавікі закапалі ў ёй аднаго з апошніх беларускіх антыбальшавіцкіх партызанаў Нічыпара Зыпляка, накідаўшы на ягоную магілу зноў сьмецьце. Правакатар атрымаў ад ДПУ ўзнагароду. Кажуць, што ў часе другое сусьветнае вайны сяляне літаральна парвалі яго на кавалкі. Цяжка цяпер праверыць гэты факт, але здаецца ён адпавядае запраўднасьці.

**Юрка Віцьбіч**

## Дзе пасьлядоўнасьць зарубежнікаў?

(Заканчэньне)

грэсу. Чаму спалучылі абодвы сьвяткаваньні разам? — згадаць цяжка, хоць агульна ведама, што Купала нічога супольнага ані з г. зв. Другім Кангрэсам, ані з Астроўскім ня меў.

Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі й Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў, як звычайна, зьвярнуліся да ўкраінскага праваслаўнага сьвятара, каб той адслужыў урачыстую паніхіду па паэце. Ці расейскі сьвятар адмовіў зарубежнікам, ці яны наагул пасароміліся да яго зьвяртацца, але тыдзень перад сьвяткаваньнем некалькі зарубежнікаў зьвярнулася да настаяцеля ўкраінскага прыходу, каб той адслужыў паніхіду па Купале і малебен... у сувязі з г.зв. Другім Кангрэсам. Настаяцель царквы адказаў, што паніхіда ўжо на 29. 6. 52 замоўленая, а раней, чым наагул гутарыць аб малебене, ён хацеў-бы ведаць, якое становішча займаюць зарубежнікі адносна самой аўтакефаліі Ўкраінскай Праваслаўнай Царквы. Прадстаўнік зарубежнікаў Аляксандар Субач злажыў на пісьме, што ён ня бачыць прычыны ня прызнаваць аўтакефаліі. Калі-ж сакратар Украінскага Царкоўнага Камітэту зьвярнуўся яшчэ раз пісьмова з запытаньнем такога-ж самага зьместу, дык зарубежнікі ня далі ніякага адказу. Бо-ж ведама, прызнаць Украінскую Царкву за аўтакефальную, дык як-жа ня прызнаць за такую Беларускай Праваслаўнай Царквы й ейных герархаў? Тым спасярод украінцаў, якія лічылі зарубежнікаў за нейкую салідную беларускую партыю, шырака адчыніліся вочы.

Мы дакладна ведаем, што зарубежнікі йдуць «пад апеку» расейцаў, палякаў, грэкаў — у залежнасьці ад патрэбы або ад волі таго ці іншага лідара — абы толькі ня стаць на чыста нацыянальны шлях, а ў царкоўным жыцьці — на шлях Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы. Дык ці-ж можна пагадзіць іхнае лепетаньне аб незалежнасьці Беларусі зь іхным паступаньнем у царкоўным пытаньні, калі яны цягнуцца ў хвасьце чужых, варожых нашай нацыянальнай справе царкоўных арганізацыяў, якімі ёсьць Расейская Зарубежніцкая й Польская Праваслаўная Царквы? Цяжка шукаць нейкай пасьлядоўнасьці ў гэтых людзей. **Сымон Грузд**

### АРХІРЭЙСКІЯ БАГАСЛУЖЭНЬНІ

**У Украінскай Праваслаўнай Царкве сьв. Сымона ў Парыжы (5, рю Гасніе Ґі, Парыж 20) Іх Высокапраасьвяшчэнства Найпраасьвяцянейшы мітрапаліт Палікарп — галава Сьвяшчэннага Сыноду УАПЦ і Высокапраасьвяшчэнны Архіяпіскап Кіяўскі й Чыгірынскі Ніканор у нядзелі 7 і 14 г. м. а гадзіне 10 нараніцы адправяць урачыстую Саборную Службу Божую ў 10-ую гадавіну адраджэньня Герархіі УАПЦ. У менаваных Багаслужбах прыйме ўдзел шматкольскае ўкраінскае, беларускае й румынскае духавенства з Францыі, Ангельшчыны, Канады, Аргентыны, Бэльгіі й Нямеччыны.**

**14-га верасьня а гадзіне 15-ай увесь склад духавенства пад кіраўніцтвам Уладык адправіць урачыстую паніхіду на магіле ГАЛОЎНАГА АТАМАНА ВОЙСКАЎ УНР сьв. п. С. ПЯТЛЮРЫ на могілках Монпарнас.**

### РАДЫЯПЕРАДАЧА АРХІРЭЙСКАГА БАГАСЛУЖЭНЬНЯ УАПЦ

**Дня 28 верасьня сёлета францускае радыё Пары-Інтэрн у часе ад 11-ай да 12-ай гадз. дня на сярэдніх хвалях 280 м. перадасьць Багаслужэньні з Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Парыжы, якое адправіць Яго Высокапраасьвяшчэнства мітрапаліт ПАЛІКАРП з удзелам шматкольскага духавенства. Падчас Багаслужэньня мітрапаліцкі хор пад кіраўніцтвам К. Мікалайчука выканае рад песьняпеўняў найлепшых украінскіх царкоўных кампазытараў. ГЕНЭРАЛЬНАЕ ЦАРКОЎНАЕ УПРАЎЛЕНЬНЕ УАПЦ НА ФРАНЦЫЮ**

# Кажнаму беларусу -- родная песьня

**ВЫЙШЛІ З ПРАДУКЦЫІ Й ПРАДАЮЦЦА ГРАМАФОННЫЯ ПЛІТКІ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА ХОРУ Ў ЛЮВЭНЕ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ПРАФ. М. РАВЕНСКАГА.**



Частка плітак ёсьць меншага разьмеру (25 цм.), а частка большага разьмеру (30 цм.).

**Пліткі меншага разьмеру зьяўляюцца наступныя:**

1. **«Ні агонь гарыць» і «Пасею гурочкі»** — дзьве беларускія народныя песьні ў выканаваньні Студэнцкага Хору. Солё: В. Шчэцька.

1а. **«Бабка» і «Камар»** — дзьве народныя гумарыстычныя песьні ў выкананьні хору. Солё: Я. Сенькоўскі.

2. **«Беларускі Нацыянальны Гымн»** у выкананьні хору.

2а. **«Пагоня».** словы М. Багдановіча, у выкананьні хору.

3. **«Чаму-ж мне ня пець?»** — народная песьня ў выкананьні хору.

3а. **«Хмель лугамі» і «Халімон»** — дзьве народныя песьні ў выкананьні хору.

4. **«Паляса»** — народная песьня ў выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.

4а. **«Вечарком»** — народная песьня ў выкананьні хору.

5. **«Магутны Божа»** — беларускі рэлігійны гымн, словы Н. Арсеньневай, у выкананьні хору.

5а. **«Достойно есьць»** — царкоўная песьня ў выкананьні хору.

6. **«Верую» (I)** — царкоўная песьня ў выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.

6а. **«Верую» (II)** — царкоўная песьня ў выкананьні хору. Солё: Ул. Цьвірка.

**Пліткі большага разьмеру (30 цм.);**

7. **«Слуцкія ткачыхі»** — словы М. Багдановіча, у выканаваньні хору. Солё: Ул. Цьвірка.

7а. **«Вярба»** — народная песьня ў выкананьні хору.

8. **«Іжэ Хэрувімы» (I)** — царкоўная песьня ў выкананьні хору.

8а. **«Іжэ Хэрувімы» (II) й «Отчэ наш»** — царкоўныя песьні ў выкананьні хору.

Усе песьні зьяўляюцца кампазыцыі праф. М. Равенскага за выключэньнем песьні «Ні агонь гарыць», якая ёсьць кампазыцыі Чуркіна, і Беларускага Нацыянальнага Гымну.

**Цана плітак безь перасылкі: меншыя пліткі каштуюць 1 ам. даляр або 48 бэльг. франкаў кажная, а большыя пліткі — 1,60 дал. або 78,50 бэльг. фр. Цана ўсіх плітак разам: 9 дал. або 400 бэльг. фр. безь перасылкі.**

Рэкамэндуецца купляць сэрыямі дзеля выгаднейшай перасылкі.

Можна заказаць пліткі, плацячы за перасылку пры атрыманьні.

Купляць і выпісваць грамафонныя пліткі трэба з Цэнтралі Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў на Чужыне: 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.

### АД РЭДАКЦЫІ

**З увагі на тое, што гэты нумар паяўляецца падвойным, наступны нумар «Бацькаўшчыны» выйдзе за 21 верасьня. Разам з гэным нумарам выйдзе чарговы нумар часапісу для дзяцей «КАЛАСКІ», а пры нумары за 28 верасьня паявіцца першы нумар «Жаночага Дадатку».**

блізіня, пачатак — гэта другі, ці мо', лепей першы канец, той, што да нас бліжшы (як палка з двума канцамі).

Дзеля самабытнасьці, своеасаблівасьці нашае мовы напару бывае цяжка або й немагчыма даслоўна перакласьці. Гэтак і тутка. Калі, прыкладам, перад крамаю або ўрадам стаяць людзі чакаючы, пакуль кажны зь іх па парадку будзе магчы купіць або будзе прыняты, дык тут м. «очередь», п. kolejka адказвае белр. радоўка і толькі, калі, прыкладам, пятнаццаты йдзе купляць або прыймацца, дык тады **кон** ягоны прыходзіць.

3. **Конадзень** — «канун», п. przeddzień, **наконадні** — накануне, w wilje, w przeddzień. Гэтыя словы між іншага ведамы з Барн., падае іх і Ласт. у сваім слоўніку. **У конадзень Купальля.** МАЛАДЫ ДЗЯДОК (Часапіс «Заранка»). **Конадзень** складаецца з двух словаў — з **кон** і **дзень.** Дыкжэ ляпей нельга было назваць апошні, канцавы дзень перад сьвятам або перад якім здарэньнем.

Словы пад 1., 2., 3. дасканальныя. Наш народ выказаў тут сябе філёзафам.

4. **Канчатак, канчар.** «Канчатак» тым розьніцца ад «канец», што мае шыршае значэньне. Гэтак канцом повесьці, апавяданьня і пад. будзе апошняе слова, а канчатак можа займаць і шмат балонаў. Таксама ў словах ёсьць канец і канчатак. Гэтак, прыкладам, у слове «сыноў» канец — гэта гук **ў**, але канчатак **-оў.** Канцом слова «есьці» ёсьцека **і**, але канчаткам гэтага неазначанага ладу ёсьць **-ці.** Блр. **Канчатак** адказвае м. окончание, п. końcowka.

**Кончаром** завецца засталы кавалак якое рэчы, прыкладам, выкуранай папяросы.

**Канчаць, кончыць і скончыць** — оканчивать, кончить. Адгэтуль —

**Канчальны** — окончательный ostateczny; канчальна — окончательно, ostatecznie. Скажы канчальнае слова. НСЛ. 245.

**Канцавы** — м конечный.

**Канечны** — м. непременный, неизбежный, необходимый; **канечнасьць** — необходимость, неизбежность; **канечне** — непременно, необходимо. Словы агульна вдамыя, запісаныя ў АР.; ВОЙШ. і інш. **Канечне трэба, канечне прыедзь.** НСЛ. 244. **Не канечне папу яечня; зьесьць і дзяк, а поп будзе так.** Тм.

**Крыўда, крыўдзіць, крыўдны, крыўднік, крыўдаваць.**

**Крыўда** = м. обида; **крыўдзіць, пакрыўдзіць, укрыўдзіць** — обижать, обидеть; **пакрыўджаны, укрыўджаны** — обиженный; **крыўдна** — обидно — **крыўдны** — обидный; **крыўднік** — обидчик, п. krzywdziciel, **крыудніца** — обидчица, krzywdzicielka. Слова «крыўднік» знаходзім між іншага ў Аль кітабе, транскрыбаваным Вольскім: **Муж быў крыўднік людзкі, ілгаў і крадаў.** «УЗВЫШША» № 4 з 1927 г., б. 143. **Крыўдаваць, -ую** значыць «чуцца пакрыўджаным» — м. «обижатся». Прыклады: з ЗСД: **Яна быццам крыўдавала на самую сябе, што ня можа ляпей зрабіць.** 134; **Ды я, Васілёк, ня крыўдую.** 240; з **ЛНЧ: Грэх, чалавеча, на жыцьцё крыўдаваць.** 11; **крыўдавала на жыцьцё, на тугу па ласцы матчынай.** 44; **твой-жа брат селянін крыўдуе; апошнія, кажа, гарцы зьбіраеш.** 44. Слова гэтае ў мове народнай ведамае ўсюды.

Відавочна пад уплывам «крыўдаваць» і слова «крыўда» напару значыць «нараканьне»: **Як радзіла сына Міколу, дык вось і пачалося, усё на жывот тыя крыўды.** ЛНЧ. 23.

У менаваных словах, з выняткам «крыўдаваць, крыўдую», усюды націск на **кры-.**

**Места, местачка, мескі, месьціч, мешчанін і горад; сяло, аднасель.**

«Ня люблю я места, парасейску горад» — кажа ў вадным вершы Багушэвіч. Дыкжэ «места» парасейску завецца «горад».

А ў нас цяперака ёсьць слова «места» і няма слова «горад». Калісь было накш. У сівую старыну былі «гарады». Гарадамі тады звалі адміністрацыйныя пункты ўмацаваньня (дыкжэ ад слова «гарадзіць), а «места» значыла тое, што цяпер «месца». Але з часам у горадзе адно «места» набірае асаблівага значаньня, на ім разьвіваецца гандаль, рамёслы, промысл. Супраць гэтага места кажнае іншае зьяўляецца местам малым, дык і дастае зьмяншальны назоў — «местьца», з чаго «месца». Значыцца, першае новае значаньне слова «места» было «рынак». Гэтае значаньне слова «места» захавалася, як архаізм, дагэтуль у ваднэй дзяцінай песьні-гульні, запісанай ля КРЭВА АШ. Вось яна:

Лады, лады, ладкі,
Пабіліся бабкі
Пасярод рынку,
За рабую сьвінку.

А варыянт гэтай песьні гэткі:

Лады, лады, ладкі,
Пабіліся бабкі
Пасярод места,
За камок цеста.

Тут ясна, што «рынак» і «места» — гэта тое самае.

З часам характар места-рынку зь яго гандлем — крамамі, рамёсламі пашыраецца на ўвесь горад, а, з другога боку, горад траціць свае ўмацаваньні, як ужо непатрэбныя. Дык гарады ператвараюцца ў месты; адначасна з гарадамі шчэз і назоў «горад». Цяпер горадам можна зваць толькі гарады старавечныя, значыцца, умацаваныя селішчы. Магло-б яшчэ паўстаць пытаньне, ці ня зваць цьвердзяў (крэпасьцяў) гарадамі, але места зваць горадам — гэта памаскоўску.

Слова «места» перанялі ад нас і летувісы (miestas).

Малое места — гэта **местачка** — (не «мястэчка», бо гэта пад польскім уплывам). Насельніцтва места — гэта мяшчане, даўней яшчэ званыя месьцічамі. Прымета ад места — **мескі: мескія дамы, мескае жыцьцё** і г. д.

Назоў «места» замест «горад» ведамы ўжо з XIII в. З XV в. маем блізу вылучна «места», «местачка» (а ня «горад», «гарадок»), ды ў іх **мескія** людзі — месьцічы. Тры прыклады із СТТ: **усіх княжат... шляхту, места і ўсіх падданых нашых... аднымі правы... судзіці і справаваці маем.** 65; А гдзебы хто ня толька на палацу і дварэ, але ў месьце, на вуліцы, або ў дому і на каторам кольвек месцу, у месьце том, гдзе мы самі будзем, каго раніў..., такой-жа віне падлегчы маець. 745; на неаселага пазоў... маець быці прыбіван у брам замковых і мескіх. 74—25.

Колькі прыкладаў з МА: **каторыі людзі мешкаюць пад прысудам гарадзкім, тыі людзі войт і мяшчане за сябе былі забралі ў права мескае.** І мы з таго дасматрэўшы, урадзілі так: каторыі людзі пахоцяць з права мескага ў гарадзкі прысуд, тых маець намесьнік наш судзіці; войту і мяшчанам у тыі людзі ня надабе ўступаціся. 7, л. з 1499; пад прысудам мескім права майдэбурскага належалі, а не пад прысудам замковым. Тм. 72, з 1595 г.; прыказуем вам, абы ясьце мяшчан места Менскага адсылалі (л. з 1591 г., б. 48).

Зь менаваных прыкладаў відаць, што «гарадзкі» значыць тое самае, што «замковы».

У старых беларускіх памятках ёсьць мільёны прыкладаў на «места» ў значэньню маскоўскага «горад» і ані няма прыкладаў на «горад» у гэтым значэньню.

**Сяло** адказвае м. «деревня», п. wieś, **wioska** бяз розьніцы, ці ў сяле будзе царква або касьцёл ці не.

**На ціхой сенажаці за сялом у сьвежым сене ляжаць добра.** КУЛЯШОЎ: У ЗЯЛ. ДУБРОВЕ 50; **гдзе бы ся што таковага... стала, у месьце альбо ў сяле,** СТТ. 202. Сяляне на сёлах ані ў дамех сваіх нічога прадаваці ня маюць, але да мест і местачак усе... вазіці... вольна. СТТ. 487-5. **Калі-б без азану ў каторам месьце або ў сяле азан ня пеўшы, намаз пелі-б, вольна цэсару казаць тых людзей выцяць.** Аль. кітаб 88 і 17. Прыметнік ад «сяла» ёсьць **селавы** (= м. деревенский, сельский, п. wiejski, wioskowy). Пркл.: **Селавая баба пайшла.** ІГ.

**Аднасель.** АР. — м. хуторь, п. kolonja.

(Далей будзе)

# Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны"

### ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:

1. **У Бэльгіі:**
   Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:**
   **The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.**
3. **У Францыі:**
   Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn. Boncour, Neuilly s/Seine, France.
4. **У ЗША:**
   Mr. B. Danilovich, 222 Suydam St. New Brunswick, N. J. U.S.A.
5. **У Канадзе:**
   Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:**
   Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:**
   Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:**
   Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:**
   Mr. Karanieuski Marian, R. N. Z. A. F. Station Taieri. Otago. New Zeeland.

### ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ

| | | |
|---|---|---|
| 1. | ЗША | 15 цэнтаў |
| 2. | Канада | 15 цэнтаў |
| 3. | Вялікабрытанія | 1 шылінг |
| 4. | Францыя | 40 франкаў |
| 5 | Аўстралія | 1 шылінг |
| 6. | Аргентына | 2 пэзо. |
| 7. | Бэльгія | 5 франкаў |

Ува ўсіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 эгзэмпляр.

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў у Нямеччыне грошы за «Бацькаўшчыну» з усіх краінаў паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас:**
Paul Urban
**19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**